# ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КПСС

## ПРАМОВА ТАВАРЫША Ф. А. СУРГАНАВА

Таварышы! У сваім глыбока аргументаваным дакладзе на Пленуме таварыш М. С. Хрушчоў усебакова асвятліў важнейшыя тэарэтычныя пытанні камуністычнага будаўніцтва, зноў звярнуў увагу кіруючых кадраў і ўсёй партыі на вялізарнае практычнае значэнне асноўных палажэнняў новай Праграмы КПСС. Ён яшчэ раз падкрэсліў, што для марксістаў-ленінцаў камунізм — гэта і поўная сацыяльная роўнасць усіх членаў грамадства, і высокая свядомасць, ідэйнасць усіх грамадзян, і багацце матэрыяльных і духоўных даброт.

Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў падкрэсліў вялізарнае значэнне сельскай гаспадаркі ў стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма і намеціў шляхі далейшага развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці ў святле патрабаванняў Праграмы партыі.

Увесь савецкі народ горача адабрае і падтрымлівае рашэнні XXII з'езда КПСС, Праграму партыі. Савецкія людзі бачаць у ёй увасабленне сваіх запаветных мар і спадзяванняў. Яны непахісна ўпэўнены ў тым, што намечаны з'ездам партыі план пабудовы камунізма будзе паспяхова выканан. Гэтая вера ў перамогу камунізма, усенародная падтрымка планаў партыі знаходзяць сваё праяўленне ў самаадданай працы рабочых, сялян, інтэлігенцыі, у шырокім размаху сацыялістычнага спаборніцтва за выкананне і перавыкананне заданняў сямігодкі.

План вытворчасці прамысловай прадукцыі ў Беларускай ССР за 1961 год выканан на 103 працэнты. Прадпрыемствы выпусцілі звыш плана вялікую колькасць разнастайнай прадукцыі. Няўхільна расце прадукцыйнасць працы, зніжаецца сабекошт, паляпшаецца якасць прадукцыі. Наша прамысловасць развіваецца больш высокімі тэмпамі, чым намячалася сямігадовым планам.

Пасля вераснёўскага Пленума ЦК (1953 г.) у развіцці сельскай гаспадаркі рэспублікі, як і ўсёй краіны, дасягнуты вядомыя поспехі. Аднак узровень развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці ў рэспубліцы адстае ад заданняў сямігодкі. За перыяд з 1958 года вытворчасць малака ў калгасах і саўгасах узрасла на 44 працэнты, а ў цэлым па рэспубліцы — усяго на 27 працэнтаў; вытворчасць мяса, хаця і павялічылася ў калгасах і ў саўгасах больш чым на 30 працэнтаў, але ў цэлым па рэспубліцы яна засталася на тым жа ўзроўні, што і тры гады назад. Па-ранейшаму нізкая ў Беларусі ўраджайнасць сельскагаспадарчых культур. Вытворчасць збожжа ў 1961 годзе склала ўсяго 65 працэнтаў да аб'ёму, прадугледжанага сямігодкай на гэты год, малака — 87 працэнтаў і мяса — толькі 66 працэнтаў.

Цэнтральны Камітэт КПСС, таварыш М. С. Хрушчоў справядліва крытыкуюць кіруючыя кадры Беларусі за недахопы і памылкі ў рабоце па кіраўніцтву сельскай гаспадаркай, за нізкія тэмпы прыросту прадукцыі. Тав. М. С. Хрушчоў на нарадзе работнікаў сельскай гаспадаркі Беларусі і на гэтым Пленуме Цэнтральнага Камітэта КПСС ускрыў прычыны зніжэння тэмпаў сельскагаспадарчай вытворчасці ў нашай рэспубліцы.

На працягу раду гадоў у адпаведнасці са спецыялізацыяй рэспублікі, на вытворчасці, галоўным чынам прадуктаў жывёлагадоўлі, мы актыўна займаліся павелічэннем пагалоўя грамадскай жывёлы, і гэта, безумоўна, дало свае вынікі. Але, удзяляючы ўвагу павелічэнню пагалоўя грамадскай жывёлы, партыйныя і савецкія арганізацыі рэспублікі забыліся аб рашаючым фактары развіцця жывёлагадоўлі — аб стварэнні трывалай кармавой базы. Гэта было нашай вялікай памылкай.

Так, у 1961 годзе пры значным росце пагалоўя жывёлы калгасы і саўгасы рэспублікі нарыхтавалі кармоў нават менш, чым у 1960 годзе. Іменна таму Беларусь у 1961 годзе недавыканала план нарыхтовак мяса на 5 працэнтаў.

Калгасы і саўгасы адчуваюць востры недахоп у кармах. Адной з галоўных прычын нездавальняючага забеспячэння жывёлы кармамі з'яўляецца таксама няправільнае выкарыстанне асноўнага багацця калгасаў і саўгасаў — зямлі. Мы поўнасцю падтрымліваем прапанову тав. М. С. Хрушчова аб тым, што неабходна рашуча асудзіць травапольную сістэму, якая нанесла вялікую шкоду сельскай гаспадарцы. У дакладзе правільна падвяргаецца крытыцы Беларускі інстытут жывёлагадоўлі за безгаспадарчае выкарыстоўванне зямлі ў сваёй эксперыментальнай гаспадарцы. Не меншай крытыкі за прыхільнасць да траваполля заслугоўвае і Інстытут земляробства Беларусі, у гаспадарках якога шматгадовыя і аднагадовыя травы займалі 41 працэнт ворнай зямлі, а такая каштоўная культура, як цукровыя буракі, усяго 1,5 працэнта, кукуруза — менш чым 7 працэнтаў. Гэтыя і іншыя навуковыя ўстановы рэспублікі, пагарджаючы эканамічнымі вынікамі дзейнасці сваіх жа гаспадарак, наперакор разумнаму сэнсу, усяляк прапаведвалі травапольную сістэму і імкнуліся актыўна ўкараніць яе ў калгасах і саўгасах.

Гэта нанесла вялікі ўрон сельскай гаспадарцы рэспублікі. Плошчы пад шматгадовымі і аднагадовымі травамі павялічыліся з 472 тысяч гектараў у 1953 годзе да 1.165 тысяч гектараў у 1961 годзе, а плошчы пад збожжавымі культурамі за гэты час скараціліся на 719 тысяч гектараў. Каля 6 працэнтаў ворыва займаў авёс. Такім чынам, у нашай рэспубліцы амаль адна чацвёртая частка ўсяго ворыва выкарыстоўвалася пад пасевы малаўраджайных культур.

Мы дрэнна займаліся вырошчваннем кукурузы — гэтай важнай кармавой культуры. З-за слабасці арганізатарскай работы партыйных і савецкіх органаў па ўкараненню перадавога вопыту, з-за бескантрольнасці і недахопаў у аплаце працы кукурузаводаў калгасы і саўгасы рэспублікі сабралі ў мінулым годзе ўсяго па 155 цэнтнераў зялёнай масы з гектара. У радзе раёнаў страцілі майстроў-кукурузаводаў. Між тым, дасягненні асобных механізаваных звенняў і гаспадарак, якія атрымалі ў тым жа 1961 годзе па 600—800 і больш цэнтнераў сіласнай масы, па 40 і больш цэнтнераў зерня кукурузы з гектара, сведчаць аб тым, што ў рэспубліцы ёсць поўная магчымасць штогод атрымліваць устойлівыя высокія ўраджаі кукурузы.

Кіруючыя кадры і спецыялісты сельскай гаспадаркі Беларусі своечасова не ацанілі цудоўных кармавых вартасцей цукровых буракоў, лічачы па традыцыі асноўнай кармавой культурай бульбу. Гэта з'явілася, у пэўнай ступені, тормазам для развіцця кармавой базы.

Партыйныя і савецкія органы рэспублікі робяць неабходныя вывады. У 1962 годзе калгасы і саўгасы за лік скарачэння пасеваў бульбы запланавалі пасеяць цукровых буракоў на кармавыя мэты 140 тысяч гектараў. Праўда, гэта яшчэ мала, але гэта — амаль у пяць разоў больш, чым было пасеяна ў мінулым годзе. У наступныя гады плошчы пад цукровымі буракамі будуць даведзены да 300—350 тысяч гектараў.

У нашых калгасах і саўгасах не ўдзялялася дастатковай увагі вытворчасці кармоў, багатых бялкамі. Пасевы кармавога лубіну не перавышалі 3 працэнтаў ворыва, плошчы пад гарохам не толькі не павялічваліся, але нават скарачаліся, а кармавы боб у нас наогул не вырошчваўся.

Таварыш М. С. Хрушчоў, указаўшы на нашы памылкі і недахопы, дапамог кіруючым кадрам калгасаў і саўгасаў, вучоным і спецыялістам, партыйным і савецкім работнікам больш ясна ўбачыць вялізарныя рэзервы вытворчасці.

Ва ўсіх калгасах і саўгасах распрацавана новая структура пасяўных плошчаў на 1962 год. У гэтым годзе пасевы збожжавых будуць пашыраны на 375 тысяч гектараў і зоймуць 54,3 працэнта ворыва. Плошчы пад прапашнымі культурамі павялічваюцца да 26,4 працэнта ворыва. Пад кукурузай будзе занята 13—14 працэнтаў, пад бабовымі — на зерне і сілас — 11 працэнтаў, пад цукровымі буракамі — 3,3 працэнта ворыва. Плошчы пад травамі скароцяцца прыкладна ў два разы і складуць каля 12 працэнтаў. Будуць значна расшыраны пасевы кукурузы і цукровых буракоў на асушаных землях.

Калгасы і саўгасы намячаюць ужо ў 1962 годзе значна павысіць ураджаі ўсіх сельскагаспадарчых культур і перш за ўсё — кукурузы, цукровых буракоў, бабовых, бульбы. У рэспубліцы вядзецца актыўная работа па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Усе землі ўзараны на зябліва, у калгасах і саўгасах ёсць дастатковая колькасць насення, завяршаецца рамонт тэхнікі. Нарыхтоўваюцца і вывозяцца арганічныя ўгнаенні: у нас з 1 кастрычніка 1961 года ўжо вывезена на палі 32 мільёны тон гною і торфу, пераважна ў выглядзе кампостаў, або амаль на 40 працэнтаў больш, чым на гэты ж час у мінулым годзе. Такім чынам, вывезена прыкладна па 10 тон мясцовых угнаенняў у разліку на кожны гектар яравога кліна.

Заканчваецца работа па стварэнню звенняў, паўсюдна вядзецца практычнае абучэнне кукурузаводаў, буракаводаў, механізатараў, спецыялістаў і кіруючых кадраў агратэхніцы вырошчвання кукурузы і цукровых буракоў. У абласцях працуюць школы перадавога вопыту пад кіраўніцтвам лепшых кукурузаводаў і буракаводаў рэспублікі тт. Уладзіміра Кота, Уладзіміра Жудро, Цярэнція Радчанкі, Генадзя Жудро, Міхаіла Бандарука, Ольгі Мацюшка і іншых, якія штогод дабіваюцца высокіх ураджаяў кукурузы і цукровых буракоў. Вялікая група беларускіх механізатараў абучалася перадавым метадам вырошчвання цукровых буракоў у знатнага механізатара краіны тав. Святлічнага. Да вырошчвання кукурузы будуць прыцягнуты ўсе майстры, якія займаліся гэтай справай у мінулыя гады, а затым перайшлі на іншую работу.

Кіруючыя кадры калгасаў і саўгасаў у семінарах і на курсах вывучаюць эканоміку сельскай гаспадаркі, перадавы вопыт земляробства і жывёлагадоўлі. Пры сельскагаспадарчых вышэйшых навучальных установах працуюць 3 школы па падрыхтоўцы старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў. У кожнай вобласці створаны шасцімесячныя курсы павышэння кваліфікацыі старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў, кароткатэрміновыя курсы па перападрыхтоўцы брыгадзіраў і загадчыкаў жывёлагадоўчых ферм.

Удасканальванне структуры пасяўных плошчаў і намячаемае павышэнне ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур дазволіць калгасам і саўгасам рэспублікі ў сёлетнім годзе атрымаць з гектара ворыва ў сярэднім па 20—22 цэнтнеры кармавых адзінак, г. зн. у паўтара раза больш, чым у 1961 годзе. Гэта дазволіць калгасам і саўгасам, нягледзячы на недахоп кармоў у першым паўгоддзі, ужо ў 1962 годзе павялічыць вытворчасць малака на 15—20 працэнтаў і мяса — на 25—30 працэнтаў. Вытворчасць малака складзе 190—200 цэнтнераў на сто гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў і мяса ва ўбойнай вазе — па 31—32 цэнтнеры на сто гектараў ворыва і па 6,5—7 цэнтнераў на сто гектараў іншых сельскагаспадарчых угоддзяў. Калгасы і саўгасы рэспублікі будуць змагацца за тое, каб у гэтым годзе адкарміць не менш чым па адной свінні на кожныя тры гектары ворыва.

Намячаемы рост валавой вытворчасці прадуктаў сельскай гаспадаркі дазволіць у гэтым годзе прадаць дзяржаве значна больш, чым у мінулым годзе, збожжа, бульбы, ільновалакна, мяса, малака і іншых прадуктаў сельскай гаспадаркі.

Вялікае мабілізуючае значэнне мае канкрэтная пастаноўка тав. М. С. Хрушчовым на гэтым Пленуме пытання аб узроўні спажывання і вытворчасці асноўных прадуктаў сельскай гаспадаркі, які павінен быць забяспечан на застаўшыяся гады сямігодкі і наступныя гады. Мы падлічым, якія аб'ёмы гэта складзе ў Беларусі і выпрацуем дадатковыя меры, накіраваныя на тое, каб забяспечыць неабходны аб'ём вытворчасці, пераадолець адставанне ў выкананні заданняў сямігодкі. Узровень вытворчасці ў размеры 75 цэнтнераў мяса ва ўбойнай вазе на сто гектараў ворыва і 16 цэнтнераў на сто гектараў іншых угоддзяў будзе дасягнуты ў рэспубліцы ў гэтай сямігодцы. У нас ёсць нямала гаспадарак, якія перавысілі гэты ўзровень і набліжаюцца да вытворчасці 150 цэнтнераў мяса і 1.000 цэнтнераў малака на сто гектараў ворыва.

Паспяховае вырашэнне задач далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі залежыць, перш за ўсё, ад арганізатарскай работы партыйных органаў, ад узроўню кіраўніцтва калгасамі і саўгасамі. Правільна адзначыў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, што мы кіруем сельскай гаспадаркай часта дэкларатыўна, у нас адсутнічае належны кантроль і праверка выканання прынятых рашэнняў, няма актыўнага ўздзеяння на становішча спраў у кожнай гаспадарцы. Партыйныя і савецкія органы рэспублікі мала займаюцца ўкараненнем вопыту перадавікоў, слаба клапоцяцца аб стварэнні перадавікам вытворчасці неабходных умоў. Мы лічым правільнымі вывады і прапановы па паляпшэнню кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, выкладзеныя ў дакладзе М. С. Хрушчова на гэтым Пленуме.

У Беларусі намячаецца стварыць 29 міжраённых калгасна-саўгасных упраўленняў. Кожнае з іх будзе абслугоўваць у сярэднім 5 раёнаў, 93 гаспадаркі. У складзе ўпраўлення мяркуецца мець групу інспектараў-арганізатараў, замацаваўшы за кожным з іх 5—7 калгасаў і саўгасаў, групу галоўных спецыялістаў па галінах, аддзел планавання і групу бухгалтараў-рэвізораў з разліку абслугоўвання кожным з іх 10 гаспадарак. Мы лічым таксама неабходным мець пры міжраённых упраўленнях парторгаў ЦК з групай інспектараў.

Акрамя таго, у нас будуць створаны абласныя вытворчыя ўпраўленні на чале з намеснікамі старшынь аблвыканкомаў, міністэрства па вытворчасці і закупках сельскагаспадарчых прадуктаў у рэспубліцы, якое будзе ўзначальваць намеснік Старшыні Савета Міністраў.

Мы падтрымліваем прапанову тав. М. С. Хрушчова аб стварэнні ў рэспубліках і абласцях камітэтаў па кіраўніцтву сельскай гаспадаркай, узначальваемых першымі сакратарамі ЦК Кампартый саюзных рэспублік і абласных камітэтаў партыі.

Новая арганізацыя кіравання сельскай гаспадаркай безумоўна дасць станоўчыя вынікі. Але ясна, што побач з гэтым трэба ўзмацняць і паляпшаць арганізатарскую і палітычную работу партыйных арганізацый у вёсцы, вырашаць як важнейшую практычную задачу: укараненне ў сельскагаспадарчую вытворчасць перадавога вопыту, абучэнне людзей лепшым прыёмам вырошчвання высокіх ураджаяў кукурузы, цукровых буракоў, бабовых і іншых культур. На гэта мы і нацэльваем цяпер партыйныя арганізацыі.

Таварыш М. С. Хрушчоў у дакладзе ўдзяліў вялікую ўвагу пытанням павышэння працоўнай актыўнасці мас, падкрэсліў выключную важнасць правільнага спалучэння маральных і матэрыяльных стымулаў у справе камуністычнага будаўніцтва. Паслядоўнае ажыццяўленне ленінскага прынцыпу матэрыяльнай зацікаўленасці сельскіх працаўнікоў у выніках сваёй працы з'яўляецца адным з рашаючых сродкаў уздыму сельскагаспадарчай вытворчасці. Мы лічым вялікім упушчэннем тое, што многія калгасы і саўгасы рэспублікі дрэнна выкарысталі гэты рычаг.

У цяперашні час партыйныя і савецкія органы рэспублікі прымаюць неабходныя меры, накіраваныя на павышэнне матэрыяльнай зацікаўленасці калгаснікаў у павелічэнні вытворчасці прадукцыі. Распрацаваны і апублікаваны ў друку рэкамендацыі па дадатковай аплаце працы на вырошчванні кукурузы, цукровых буракоў і бабовых культур. Вядзецца актыўная работа па ўкараненню гаспадарчага разліку ў калгасах.

Мерылам узроўню кіраўніцтва гаспадаркай з'яўляюцца колькасць, якасць і сабекошт прадукцыі, якую атрымліваюць калгасы і саўгасы. Прадукцыйнасць працы ў гаспадарках рэспублікі за апошні час прыкметна ўзрасла, але яна яшчэ нізкая: прадукцыя, вырабляемая калгасамі і саўгасамі, абыходзіцца ім яшчэ дорага. Гэта тлумачыцца галоўным чынам тым, што ў калгасах і саўгасах часта прымяняюцца адсталыя метады вядзення гаспадаркі, дрэнна выкарыстоўваюцца ўнутраныя рэзервы вытворчасці.

Аднак нізкая прадукцыйнасць працы абумоўлена і недастатковай механізацыяй вытворчых працэсаў. У рэспубліцы ў 1962 годзе, напрыклад, сяўба кукурузы пры поўным выкарыстанні тэхнікі будзе механізавана толькі на 60 працэнтаў, цукровых буракоў — на 40 працэнтаў, а бульбы — на 30 працэнтаў. Уборку ж цукровых буракоў і бульбы калгасы і саўгасы рэспублікі будуць праводзіць у асноўным уручную. Такая вельмі працаёмкая работа, як нарыхтоўка і вывазка ўгнаенняў (а гэта для Беларусі мае першараднае значэнне) — механізавана толькі на 30 працэнтаў. Вельмі нізкі працэнт механізацыі і ў жывёлагадоўлі.

У дакладзе тав. М. С. Хрушчова правільна пастаўлена пытанне аб узмацненні матэрыяльна-тэхнічнай дапамогі сельскай гаспадарцы. Гэта адна з карэнных мер уздыму сельскагаспадарчай вытворчасці. Прамысловасць Беларусі таксама ўносіць свой уклад у забеспячэнне калгасаў і саўгасаў тэхнікай. Праведзена рэканструкцыя Мінскага трактарнага завода, у выніку якой яго магутнасці па выпуску трактараў будуць павялічаны з 25 да 75 тысяч машын у год. Магутнасць самога трактара павышана з 37 да 50 конскіх сіл. Прыняты меры па значнаму павелічэнню выпуску сіласаўборачных камбайнаў на Гомельскім заводзе. У 1961 годзе завод вырабіў больш чым 27 тысяч камбайнаў, а ў 1962 годзе ён выпусціць ужо 35,5 тысячы машын.

Вельмі важным пытаннем для сельскай гаспадаркі рэспублікі з'яўляецца механізацыя жывёлагадоўлі. Выпуск машын і механізмаў, патрэбных жывёлагадоўлі, арганізаван, на наш погляд, нездавальняюча. Мы лічым, што наспела неабходнасць спецыялізаваць некаторыя прадпрыемствы сельскагаспадарчага машынабудавання на вырабе комплекснага абсталявання для ферм з тым, каб калгасы і саўгасы маглі набываць камплекты тыпавога абсталявання для механізацыі малочнатаварных, свінагадоўчых і птушкагадоўчых ферм.

Таварышы! Работа Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Савета Міністраў і іншых кіруючых органаў рэспублікі па кіраўніцтву калгасамі і саўгасамі была падвергнута справядлівай крытыцы на XXII з'ездзе Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, у прамове М. С. Хрушчова на нарадзе работнікаў сельскай гаспадаркі нашай рэспублікі і на гэтым Пленуме ЦК КПСС. Пасля гэтай крытыкі мы ясна бачым недахопы сваёй дзейнасці, шляхі ўздыму сельскай гаспадаркі рэспублікі.

Партыйныя і савецкія органы, кіруючыя кадры, камуністы і камсамольцы, усе працаўнікі сельскай гаспадаркі Беларускай ССР зробяць неабходныя практычныя вывады з крытыкі, пераадолеюць адставанне рэспублікі ў вытворчасці мяса, збожжа і іншых прадуктаў і забяспечаць значны рост сельскагаспадарчай вытворчасці ўжо ў 1962 годзе. Тым самым яны ўнясуць свой дастойны ўклад у справу стварэння камуністычнага багацця ў нашай краіне. **(Працяглыя апладысменты).**

ПАЯДЫНАК.

Мал. У. БАРАНОЎСКАГА.

## ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ

— Бібліятэкарка прыехала...

Гэтую вестку разнеслі па вёсцы басаногія хлапчукі.

— А што за яна? — цікавіліся жанчыны.

У калгаснай канторы шапталіся дзве калгасніцы.

— Прыгожая... У моднай сукенцы... А туфлі...

— Ат, з горада...

— Ну дык што?

— Адно краля. Праз тыдзень уцячэ...

Люба азірнулася, жанчыны змоўклі.

Пачынаць працу было цяжка. І не толькі таму, што не хапала вопыту, ведаў: папярэднікі вельмі запусцілі справу. Але дзяўчыне памаглі камсамольцы. Цяпер бібліятэка — любімае месца адпачынку калгаснікаў. А якой баявой стала калгасная насценная газета, калі яе рэдактарам прызначылі Любу. Вось толькі адзін прыклад. Выйшаў свежы нумар газеты. А назаўтра старшыня калгаса Анатоль Філімонавіч Бондар расказваў:

— На золаку нехта трывожна пастукаў у шыбу. Ну, думаю, бяда здарылася. Выходжу на двор і бачу: стаіць Іосіф Чулада.

— Таварыш старшыня, правініўся я, дык лепш знялі б працадзень які. А то гэтая страказа так размалявала, так абняславіла...

Газета памагла. Чулада больш не піў гарэлкі. І не толькі яго аднаго «вылечыла» насценгазета.

Мнагалюдна заўсёды ў бібліятэцы. Тут можна цікава і карысна правесці свой вольны час. Не прыходзіў сюды хіба толькі адзін Часлаў Шока. У чым справа? Дзяўчына не раз запрашала хлопца ў бібліятэку, але той заўсёды аднекваўся.

— А што мне там рабіць з бязбожнікамі...

Люба занепакоілася. Няўжо Часлаў верыць у бога?

Бібліятэкарка пачала наведваць яго дома. Неяк зайшла ў хату да Шокі і бачыць: сядзіць Часлаў і чытае біблію.

— А я табе цудоўную кнігу прынесла, — сказала Баршчэўская. — Напісаў яе сляпы і хворы чалавек. Можа, прачытаеш?

Не так лёгка было ўгаварыць хлопца. Доўга яшчэ ў гэты вечар расказвала Люба пра кнігу Мікалая Астроўскага. Нарэшце Часлаў пагадзіўся:

— Вазьму тваю кніжку.

Кніга спадабалася, і Часлаў стаў заходзіць у бібліятэку. Хлопец запісаўся ў драматычны гурток, наведваў вечары адпачынку, і само жыццё пераканала яго, што рэлігія — бязглуздая выдумка.

Не так даўно ў калгасным клубе ішла п'еса «Несцерка». Галоўныя ролі выконвалі Баршчэўская і Шока. Позна вечарам юнак праводзіў Любу дадому.

— Я вельмі табе ўдзячны, Люба, — сказаў на развітанне ён і моцна паціснуў дзяўчыне руку.

**А. БЯРЖЫНСКІ.**

Гродзенскі раён.

ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ВЫСТУПІЛА НАША ГАЗЕТА

### Праз дваццаць год

Так называлася заметка, змешчаная ў нашай газеце 9 лютага. Ішла ў ёй гаворка пра радасную падзею ў жыцці навуковага супрацоўніка Акадэміі навук БССР Л. Шаталавай, якая знайшла сына, згубленага ў вайну. Разам з гэтым радасным фактам, у заметцы паведамлялася і аб няўважлівасці, абыякавасці работнікаў 29-га паштовага аддзялення г. Мінска, па віне якіх тав. Шаталавай своечасова не было ўручана пісьмо з адрасам знойдзенага сына.

Намеснік начальніка Мінскага гарадскога паштамта М. Зубкоў паведаміў нам, што факты, прыведзеныя ў заметцы, абмяркоўваліся ў калектыве паштовага аддзялення. За бяздушнасць і абыякавасць, у выніку якіх Л. Шаталавай не было ўручана важнае пісьмо, на начальніка паштовага аддзялення т. Чарныша, яго намесніка т. Лютынскую і арганізатара дастаўкі т. Рулько накладзены адміністрацыйныя спагнанні.

**Працягваем размову аб тэатральным мастацтве.**

**Пісьменнік Барыс Бур'ян узнімае ў сваім артыкуле творчыя і арганізацыйныя пытанні з жыцця правінцыяльных тэатраў.**

**Наступнае слова — драматургу і тэатральнаму крытыку Я. Рамановічу.**

Барыс БУР'ЯН

# КАБ НЕ ЗГАСАЎ АГОНЬ ТВОРЧАСЦІ

Я вельмі паважаю правінцыяльных акцёраў. Навет больш: люблю. Іх часам завуць, нібыта саромечыся старога слова, «перыферыйнымі». А чаго саромецца? У нашай краіне абнаўляюцца шмат якія паняцці. Не тая ў наш час тэатральная правінцыя. Калі нават і раней, да рэвалюцыі, яна давала рускай сцэне такіх цудоўных рэжысёраў, як М. Сінельнікаў, М. Сабальшчыкоў-Самарын ці І. Растоўцаў і такіх акцёраў, як В. Камісаржэўская, П. Стрэпетава, В. Качалаў, С Кузняцоў, то ў наш час вядомы імёны Л. Скапіной, Б. Бабачкіна, Д. Зяркалавай і іншых. Першыя сцэнічныя крокі былі зроблены імі на падмостках правінцыяльных тэатраў. Гэтыя крокі былі нялёгкімі. Ад пэўных навыкаў ім даводзілася пазбаўляцца, тое-сёе вывучаць нанава, а штосьці развіваць і замацоўваць у рупнай штодзённай працы.

Яны, правінцыяльныя артысты, нярэдка пакідаюць у душы гледачоў незабыўныя ўражанні на ўсё жыццё. Не магу не прывесці словы Аляксандра Фадзеева, сказаныя ім народнаму артысту СССР К. Зубаву, аднаму з тых, хто ў пасляваенныя гады ўпрыгожваў акадэмічную сцэну Малога тэатра ў Маскве і як рэжысёр узбагачаў лепшыя традыцыі гэтага калектыву. «Заўсёды з задавальненнем успамінаю аб тым, што мы з вамі землякі, — пісаў ён акцёру ў 1953 годзе. — Цяпер, калі мне ўжо пяцьдзесят два гады, мне так прыемна бывае ўспомніць, што яшчэ хлапчуком бачыў вас на сцэне і бачыў сапраўды так «далёка ад Масквы», калі вы таксама былі яшчэ зусім маладым. Наша далёкаўсходняя публіка вельмі любіла Вас, асабліва нізавая дэмакратычная інтэлігенцыя, бо, як вядома, яшчэ з часоў Бялінскага, яна была сапраўдным аматарам і цаніцелем тэатральнага мастацтва. Ва Уладзівастоку гэта яна запаўняла ярус і галёрку вядомага Вам тэатра «Залаты Рог». Дзесьці сярод гэтай публікі быў тады і вельмі юны Аляксандр Фадзееў і разам з усімі ў захапленні крычаў: «Брава, Зубаў!»

Думаю, многія з нас па першых ўражаннях дзіцячых гадоў і асабліва юнацтва берагуць у памяці «свайго Зубава». І ўбачылі мы яго — жывога і палкага, з непаўторнымі інтанацыямі ў голасе і з нейкім толькі яму ўласцівым бляскам у вачах, упершыню не ў МХАТ'е, не ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, а менавіта на правінцыяльнай сцэне. Яна першай далучыла нас да непаўторнага мастацтва тэатра.

Колькі людзей у правінцыі пазнае свае ўласныя думкі ў палымяным прызнанні В. Р. Бялінскага: «Тэатр!.. Ці любіце вы тэатр, як я люблю яго, г. зн. усімі сіламі душы вашай, з усім энтузіязмам, з усім натхненнем, да якога толькі здольная палкая моладзь, прагная да ўражанняў цудоўнага...» Любоў гэтая нават у наш век шырокага распаўсюджання кіно і тэлебачання ўзнікае часта ў тым жа Уладзівастоку ці Магілёве, у Кінешме або ў Гомелі.

Паводле слоў М. В. Гогаля тэатр нярэдка параўноўваецца з кафедрай, з якой у непасрэдна адлюстраваным жывымі акцёрамі жыцці даецца важны ўрок, і ўрок гэты нельга давесці гэтак жа ярка і пераканаўча ніякімі іншымі сродкамі. Добра, што такія кафедры ў нас ёсць не толькі ў сталічных гарадах.

Беражліва і дбайна трэба ставіцца да правінцыяльнага тэатра. А ў нашай рэспубліцы — больш чым дзе-небудзь, бо такіх тэатраў у нас усяго толькі пяць: у Гомелі, Гродна, Магілёве, Бабруйску і Брэсце. Мы ведаем, на што яны здольныя. Некаторыя спектаклі, паказаныя артыстамі Магілёва ці Брэста, могуць паспаборнічаць у смеласці рэжысёрскіх пошукаў і арыгінальных трактовак з тым, што паказваюць нам купалаўцы. Варта ўспомніць, што «Чайка» ў Тэатры імя ЛКСМБ успрыймалася гледачамі куды больш усхвалявана і зацікаўлена, чым у Тэатры імя Янкі Купалы, а «Брэсцкая крэпасць» ідзе ў пагранічным горадзе гадамі, і там неўзабаве адбудзецца пяцісотае прадстаўленне гэтай п'есы.

Удзельнікі творчай размовы аб сучасным тэатры, якая зараз вядзецца на старонках газеты «Літаратура і мастацтва», часам папракаюць абласныя калектывы за тое, што тыя нібыта пагарджаюць беларускай драматургіяй. У пэўнай меры, вядома, яны маюць рацыю. Аднак толькі — у пэўнай меры. Па-першае, мне здаецца, што многія сучасныя нашы п'есы назваць беларускімі можна толькі з агаворкамі. Калі я чытаў «Выгнанне блудніцы» І. Шамякіна, «Твой светлы шлях» А. Маўзона і «Любоў, Надзея, Вера...» П. Васілеўскага, мяне не пакідала ўражанне, магчыма, крыху дзіўнае, але вельмі пераканаўчае: драматургі паклалі ў аснову сюжэтных перыпетый падзеі, якія маглі адбывацца ў вёсках або на новабудоўлях нашай рэспублікі, а маглі і быць у суседніх з намі мясцінах, або ўвогуле маглі нідзе не адбывацца. Адбор канфліктаў, сутыкненняў і супярэчнасцей паміж дзеючымі асобамі не падказваўся асаблівасцямі, якія характэрны абавязкова для нашай рэспублікі. У характарах герояў гэтых п'ес амаль няма рысаў, па якіх гледачы беспамылкова пазналі б, што гэта беларусы. Тэмперамент, лад думак, адносіны да навакольнага свету, нарэшце, манера выказвацца такіх, напрыклад, герояў, як Васіль Гаворка з п'есы І. Шамякіна ці Сяргей Зорын з п'есы П. Васілеўскага, пазбаўлены якіх-небудзь нацыянальных адзнак. Хутчэй за ўсё тут вінавата тое «сцэнічнае слова», якім аздобілі мову сваіх герояў драматургі. Бо, скажам, А. Макаёнку такога папроку не зробіш: у яго калі ўжо пачуеш Лявоніху ці Лявона, дык у гумарыстычнай афарбоўцы мовы, а яшчэ больш у тэмпераменце заўважыш штосьці асаблівае, знаёмае нам і па нашых жыццёвых назіраннях, і па незабыўных персанажах Купалы, Коласа ці Крапівы.

Гаворачы аб пастаноўцы п'ес беларускіх аўтараў, трэба ўлічваць і тое, што чатыры абласныя тэатры працуюць на рускай мове. Пры перакладах шмат што губляецца нават з таго каларыту, які быў у аўтарскім арыгінале. І п'есы ўжо нельга катэгарычна лічыць **беларускімі** толькі на той падставе, што яны былі напісаны па-беларуску. Яны робяцца п'есамі «наогул», хоць і пішуцца на матэрыяле беларускага жыцця. Тэатр мае права разглядаць іх як творы **мясцовых** аўтараў, якія ўступаюць у спаборніцтва з іншымі драмамі і камедыямі, што прыходзяць з аддзела распаўсюджвання Упраўлення па ахове аўтарскіх правоў. І калі, скажам, у Брэсце ставяць «Фараонаў» А. Каламійца, дык напэўна зыходзяць з інтарэсаў калектыву: шукаюць найбольш цікавыя работы акцёрам і ўлічваюць, што «Фараонаў» у Беларусі гледачы ўбачаць толькі ў іх выкананні, а «Выгнанне блудніцы» ў тым жа Брэсце пакажуць акцёры Рускага тэатра БССР або коласаўцы на гастролях. У сваю чаргу ў час паездкі ў Мінск

## БРЭСТЧЫНА ПЕРАДВЫБАРНАЯ

БРЭСТ. У абласной бібліятэцы імя М. Горкага экспануецца вялікая выстаўка. На ёй змешчана палітычная літаратура, прысвечаная выбарам у Вярхоўны Савет СССР. На асобным стэндзе — лепшыя творы савецкіх пісьменнікаў, прысвечаныя жыццю працоўных нашай краіны.

БРЭСТ. Адкрыўся вялікі «Магазін вучня і настаўніка». У ім — вучэбна-педагагічная кніга, мастацкая праграмная літаратура. У магазіне ёсць таксама аддзел канцылярскіх прылад.

КОБРЫН. Работнікі Музея імя Суворава заканчваюць мантаж перасоўнай выстаўкі «Рашэнні XXII з'езда партыі ў жыццё». На выстаўцы матэрыялы аб развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі і культуры раёна ў 4-м годзе сямігодкі.

АНТОПАЛЬ. Дыспут «Ці гатоў ты жыць пры камунізме»? адбыўся ў раённым Доме культуры. У ім прынялі ўдзел каля 300 чалавек рабочых, служачых, мясцовай інтэлігенцыі.

ПІНСК. Пры гарадскім Доме культуры створаны Ансамбль песні і танца Палесся. Пачаліся рэпетыцыі. У рэпертуары новага калектыву — старадаўнія і сучасныя песні роднага краю. Значная колькасць твораў, якія ўвайшлі ў рэпертуар, напісана мясцовымі самадзейнымі кампазітарамі і паэтамі.

ЛЯХАВІЧЫ. Адбылося адкрыццё новага памяшкання раённага Дома культуры. Гэта — вялікі двухпавярховы будынак, пастаўлены па тыпавому праекту. У ім — глядзельная зала на 450 месц, прасторнае фае, пакоі для работы гурткоў.

ПРУЖАНЫ. У гарадскім Доме культуры адбылася канферэнцыя чытачоў на тэму «Чалавек будучага выхоўваецца сёння».

